# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 33 (651) ГОД XIII 18 ЖНІЎНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.




## Напрамкі дзеяння

Тэзісы Цэнтральнага Камітэта ПАРП на V з'езд партыі ахопліваюць усе галіны ўнутранага і міжнароднага жыцця. Многа месца адводзіцца асноўным кірункам гаспадарчага развіцця на 1971—1975 гады. Штопраўда маем тут толькі асноўныя, агульныя кірункі дзеяння, паколькі да рэалізацыі гэтай пяцігодкі засталося два гады і цяжка дакладна акрэсліць яе вынікі. Тым не менш тэзісы навязваюць да некаторых вядомых дакументаў партыі. Напрыклад, тэзісы сцвярджаюць: «Асноўныя заданні сельскай гаспадаркі на бліжэйшыя гады вызначаюць пастановы IX Пленума ЦК. Абапіраючыся на іх праведзены аналіз прадукцыйных рэзерваў сельскай гаспадаркі пацвердзіў магчымасць прысліашэння ўзросту яе прадукцыі. Больш усяго важнымі астаюцца заданні: — інтэнсіфікацыя прадукцыі збожжа, далейшае і хуткае павелічэнне іх плёнаў і збораў, каб запэўніць запатрабаванне краіны». На гэтым сёння затрымаемся, каб крыху пазнаёміць, як гэта выглядае ў Гайнаўскім павеце.

Збожжавы баланс за 1966/67 гады паказвае, што валавая прадукцыя збожжа асягнула тут 29.482 тон, з чаго дзяржава скупіла 2.899 тон. У гэтым жа часе продана гаспадарам у форме корму і на насенне 4.049 тон, г. зн. на 1.150 тон больш, чым скуплена.

Прычыны тут няскладаныя. Прырост чатырох збожжавых на працягу апошніх 5 год з гектара тут надта нізкі — 11 кг, калі сярэдняя ваяводская — 12 кг, а краёвая — 32 кг. Зразумела, што аб'ектыўнай з'явай, у пэўнай меры апраўдоўваючай так нізкі ўзровень прыросту, з'яўляецца факт, што ёсць тут аж 55% V і VI класаў, 26,5% церaспалосіцы, недахоп меліярацыі і іншыя.

Аднак найбольшыя рэзервы гайнаўскай сельскай гаспадаркі трэба шукаць у арганізацыйна - агратэхнічнай галіне. Спецыялісты, якія праводзілі ў павеце доследы, зрабілі добры пачатак. Напэўна за кожным разам трэба прыглядацца гэтым вынікам, і калі зойдзе патрэба, сёе-тое паправіць. Асноўнае заданне прыпадае тут радам нарадовым. Гэта яны і іх органы павінны арганізацыйна забяспечыць рэалізацыю пастаноў і прапаноў апрацаваных калектывамі спецыялістаў. Планы, міма таго што рэальныя, вельмі напружаныя. Да 1970 года скуп збожжа мае павялічыцца на 200%. Калі ўлічым, што абавязковыя дасТавы не павялічацца, дык гэты план можа выканаць толькі кантрактацыя. Тым часам аказваецца, што міма выканання плана кантрактацыі вельмі мала скуплена збожжа. Напрыклад, ГС Гайнаўка выканала толькі ў 13,1%, Кляшчэлі — у 56,9%, Нарва — у 50,3%, Нараўка — у 47% і г.д. (даныя ад ліпеня г.г.). Такая сітуацыя вымагае вялікай асведамляючай працы сярод гаспадароў і кантрактацыйных перадавікоў.

У 1970 г. трэба будзе ў сярэднім у павеце прымяняць 95 кг NPK, калі зараз сярэдняя мае толькі 55 кг. У павеце апрацавана праграму ўгнаенняў для паасобных вёсак. У большасці з іх гэтыя заданні правільна даведзена да гаспадароў. Але ёсць, напрыклад, такія ГРН, якія на 31 мая г.г. план выкупу мінеральных угнаенняў выканалі: **Семяноўка 55%, Нараўка 62%, Нарва 59%**, калі сярэдня павятовая — 81%. У павеце ў 1968/69 г. увядзецца на тэрыторыі ГРН **Ласінка, Кленікі, Кляшчэлі і Старое Ляўкова** закон аб абавязковым прымяненні мінеральных угнаенняў. Апрача адміністрацыйных спробаў плануецца аблегчыць размеркаванне мінеральных угнаенняў. Дзеля гэтага ў бліжэйшым часе пабудуецца склады ў такіх вёсках як **Ласінка, Вялікія Тыневічы і Семяноўка.**

Апрача насеннай праблемы і вапнавання вельмі важным з'яўляецца падняссенне сельскагаспадарчай культуры. У некаторых, напрыклад, раёнах Гайнаўшчыны пануе неразумны погляд, што нібыта збожжа не з'яўляецца ўражлівым на агратэхнічныя занядбанні. «Як мае ўрадзіць, дык і так уродзіць!» — часта паўтараючаеся сцверджанне сялян. А справа выглядае інакш. Звярнуць трэба асноўную ўвагу на правільнае выкананне пасляжніўнага і перадсяўнога вырошчвання на корм, а таксама выконвання падарывак.

Кірункі дзеяння ў галіне павелічэння прадукцыі збожжа прыняла Павятовая рада нарадовая ў Гайнаўцы. Вось яны:

— павялічыць вырошчванне пшаніцы і ячменю ў ГРН **Новае Беразова, Чыжы, Стары Корнін, Кленікі і Ласінка.** г.зн. там, дзе адпаведная глеба;

— паднесці ўзровень агратэхнікі прадугледжваючы ў асноўным прымяненне падарывак, сеўнага і зімовага ворыва і т.п.;

— увясці насенную гаспадарку выключаючы суседскі абмен насеннем і заступіць яго гандлёвымі даставамі, а таксама паступова перайсці на аднаўленне збожжа прыймаючы 4-охгадовы тэрмін;

— насіліць хімічную барацьбу з пустазеллем і шкоднікамі збожжа, перш за ўсё праз павелічэнне брыгад хімізацыі сельскай гаспадаркі;

— шырэйшае прымяненне ў корме хатняй жывёлы кармавымі мяшанкамі пры памяншэнні на гэтую мэту збожжа.

Тэзісы на з'езд партыі поўнасцю знайшлі тут адлюстраванне. Трэба толькі, каб шырока іх паказаць актыву і ўсім гаспадарам у перадз'ездаўскай дыскусіі. Можна таксама спадзявацца, што дыскусія над тэзісамі прынясе многа новага ў рэалізацыі слушных пастаноў.

**А. Карпюк**

## Больш бы такіх

Як арганізаваць дзяцінец паказала Аўгустова, што каля Бельска. Магчыма, што гэта адзін з першых і найлепшых дзяцінцаў у Польшчы арганізаваны выключна за грамадскія сродкі і самымі сялянамі. Але не аб месца разыходзіцца. Справа ў добрай апецы над дзяцьмі.

У мінулым годзе КГВ атрымала частку даходаў міжгуртkoўскай машынавай базы (МБМ) на культурна-асветную дзейнасць. «Ніва» пісала аб тым, як за гэтыя грошы арганізавана экскурсіі і іншыя формы культурнай дзейнасці. Аўгустоўскія жанчыны частку грошай пакінулі. Ужо тады было вырашана арганізаваць у летні перыяд дзяцінец. Але справа не была простая. Школа ў Аўгустове прыгожая, але найлепш, як дзеці маюць уласны куточак на пляцы. Проста хтосьці запрапанаваў, каб пры школе агарадзіць сеткай і ўпарадкаваць куток пляца на месца гульняў для дзяцей. Прапанову падтрымалі маладыя з гуртка ЗМВ. Грамадская рада закупіла сетку і слупы і такім чынам пры школе паўстаў пляц гульняў. Агароджаны пляц, як можна дадумоўвацца, гэта пачатак клопатаў. Каб арганізаваць дзяцінец, патрэбныя былі грошы, грошы і яшчэ раз грошы. Гурток гаспадынь выступіў і ў гэтым годзе з просьбай да сельгасгуртка, каб той прыдзяліў пэўную суму на арганізацыю дзяцінца. Ініцыятыва жанчын і на гэты раз была падтрымана. Міжгуртковая база адпусціла жанчынам 10 тыс. зл.

Аўгустоўскія жанчыны аднак і самі «не спалі ў шапку». Гурток гаспадынь у мінулым годзе засеяў на дзяржаўнай зямлі лён. Лён закантрактавана. Жанчыны, як маглі, так даглядалі гэты лён. І фактычна расліна аказалася ўдзячнай жанчынам. Не толькі атрымалі яны 15 тыс. зл. даходу, але ўлады прызналі для гуртка гаспадынь за добрае вырошчванне льну ўзнагароду 2 тыс. зл. Усё гэта павялічыла фонд на дзяцінец.

Кіраўнік мясцовай школы, сакратар партыйнай арганізацыі **Васіль Кардзюкевіч** таксама прыняў жанчын з адкрытымі рукамі. Не толькі аддаў кусок школьнага пляца, але і школьнае памяшканне.

Аўгустоўскі дзяцінец налічваў 32 дзяцей, у тым ліку 9 маленькіх. Бацькі індывідуальна ўплацілі па 100 зл. у месяц, а апрача таго па 1 кг яек, 8 кг бульбы, 5 літраў малака, агародніны і садавіны ад дзіцяці. Кіраўнічка дзяцінца **Ганна Бачкоўская** гаворыць, што з уплочваннем грошай, а тым больш прадуктаў няма ніякіх клопатаў. Дзеці атрымоўваюць тут харчаванне тры разы ў дзень. Дзяцінец адкрыты ад гадзіны 7 раніцы да 19-ай. Гэта вельмі істотная справа, таму што толькі такі дзяцінец можа выконваць сваю ролю на вёсцы ў час палявых прац.

На момант вернемся да грашовых спраў. За зробленыя і выклапатаныя грошы шмат чаго трэба было купіць пачаўшы ад прыладаў да гульняў, да кухні, а кончыўшы на фіранках у спальных пакоях. Заработная плата персаналу таксама ідзе з гэтай сумы. Варта дадаць, што многія працы, як выкананне сталоў, столікаў ці іншыя дробныя рэчы, выконвалі самі бацькі бескарысна. Як падлічана ў ГРН, кошт дзяцінца ўключна з чынамі склаў у гэтым годзе 75 тыс. зл. У наступных гадах кошты могуць быць крыху меншыя, але завялікія, каб

(Працяг на стар. 5)




**Антон Бялевіч**

## Сіла зямлі

Ускарміла зямля, успаіла
І яго, і цябе, і мяне.
Напаўняе зямля свежай сілай,
Як па цёплай ідзеш баразне.

А бывае яшчэ, — разляцяцца,
Нібы птахі, сяўцы ад яе.
Грэшна так ад зямлі адцурацца,
Як ад роднае маці свае,

Бо зямля свае скарбы нядрэнна
Выдае нам з кладовак сваіх...
Без яе хлебароб, нібы дрэва
Без карэнняў глыбокіх жывых.

(З кніжкі «Партрэт бацькаўшчыны»)



**Яблыкі.**
**Фота: А. Карпюк**

 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БССР

# Тут нараджаецца новае, перадавое

Шырокая дарога, уздоўж якой цягнецца ліставая алея, вядзе на цэнтральную сядзібу эксперыментальнай базы «Устье» навукова-даследчага інстытута земляробства Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР, што знаходзіцца ў Аршанскім раёне. Побач са старым паркам пасяліліся маладыя дрэўцы. Да непазнавальнасці змяніўся за апошнія гады пасёлак. Тут выраслі двухпавярховыя жылыя дамы з усімі камунальнымі выгодамі, асобныя прыгожыя катэджы. У іх жывуць рабочыя, служачыя і навуковыя супрацоўнікі гаспадаркі, тыя, хто працуе над новымі праблемамі развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці. Іх рукамі даследваюцца ў практычных умовах высокаўраджайныя гатункі пшаніцы, азімага жыта, ячменю, аўса, бульбы, шматгадовых траў. Тут палі зрабіліся сапраўднай лабараторыяй.

На эксперыментальных дзялянках прайшлі даследванні ў вытворчых умовах навейшыя гатункі збожжавых, як жыта «Бенякоўскае» і «Літоўскае — 3», азімая пшаніца «Белацаркоўская» і «Міронаўская», бульба «Лашэцкая». Цяпер гэтыя культуры даюць высокія ўраджаі ў шматлікіх гаспадарках раёна і суседніх вобласцях рэспублікі. Зернем іх забяспечыла эксперыментальная база.

Тут не толькі праводзяцца эксперыменты на дзялянках. Гэта і вельмі добра развітая гаспадарка з высокай культурай земляробства і жывёлагадоўлі. У ёй налічваецца 1.830 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку 1.200 гектараў ворнай зямлі. Ёсць племянныя фермы буйнай рагатай жывёлы буралатвійскай і тлустамалочнай джэрсейскай пароды. У гаспадарцы ўтрымліваецца 1.400 галоў усялякай жывёлы. Яна добра аснашчана найноўшымі машынамі. На палях працуюць 23 трактары, 10 усялякіх камбайнаў і шмат іншай тэхнікі. Усе працаёмкія работы ў паляводстве і жывёлагадоўлі поўнасцю механізаваны. З кожным годам павялічваецца вытворчасць таварнай прадукцыі і продаж яе дзяржаве.

Цяпер сярэднемесячны надой малака ад каровы складае каля 500 кілаграмаў малака. Гаспадарка ўтрымлівае першае месца ў раёне сярод калгасаў і саўгасаў.

На фермах працуюць выдатныя кадры жывёлаводаў, якія накапілі багаты вопыт атрымання высокіх надояў малака на адкорме. Спасярод іх даяркі Валянціна Азарава, Надзея Молахава, Вольга Блінава, Зоф'я Каранеўская, Лідзія Казьяніна, якія надойваюць зараз у месяц па 500 і больш кілаграмаў малака ад каровы. Даследчыцы жывёлы Клаўдзія Бадзерка і Зоф'я Бабкова дабіліся на адкорме буйнай рагатай жывёлы сярэднесутачнага прыбаўлення ў вазе ад кожнай галавы па 700—800 грамаў.

Поспехі ўсяе справы вырашае трывалая кармавая база. У летне-асенні перыяд жывёла атрымлівае зялёны корм на працягу 200—210 дзён. Першая зялёная маса паступае за лік культурных паш і азімага жыта, пасеянага на зялёны корм, пазней канюшына. Затым на падкормку ідзе зялёная маса кукурузы, кармавы лубін і кармавая капуста. На зімовы перыяд рыхтуецца дастатковая колькасць сена, асабліва з сеяных траў і сіласаў. Значнае месца ў раёне займаюць коранеплоды і яравая салома.

На высокай навуковай аснове вядзецца і раслінагадоўля. Пастаянна павышаецца культура земляробства, расце і ўзровень механізацыі. Зерняныя і прапашныя культуры апрацоўваюцца пры дапамозе комплекснай механізацыі. Нават на прасушцы і ачыстцы да зерня не датыкаецца рука чалавека. Для гэтай мэты ў гаспадарцы пабудаваны механізіраваны зернявы ток з электрамеханічнай сушылкай. Мінеральныя ўгнаенні рассяваюцца пры дапамозе тукавых сеялак і самалёта.

Высокатаварная жывёлагадоўля, рост ураджайнасці ўсіх культур станоўча выяўляецца на ўмацаванні эканомікі гаспадаркі. У мінулым годзе тут атрымана больш 400 тысяч рублёў чыстага даходу. Усё гэта дае магчымасць выдзяляць большыя сродкі на гаспадарчае і культурна-бытавое будаўніцтва. На цэнтральнай сядзібе пабудаван вялікі стадыён з усім спартыўным збудаваннем. Побач размешчаны летні водаплавальны басейн, пачынаецца будаўніцтва зімовага. Палепшваюцца і культурна-бытавыя ўмовы рабочых. У многіх кватэрах устаноўлены газавыя пліты, амаль кожная другая сям'я мае тэлевізар.

Гаспадаркай кіруе з вялікім практычным вопытам вучоны аграном Захар Іванавіч Баркоўскі. Прыйшоў ён сюды працаваць адразу пасля другой сусветнай вайны, адбудаваў разбураныя фермы, майстэрні, жылыя дамы. На яго вачах зноў пераўтварыўся пасёлак. Працуючы, ён адчуў, што не хапае ведаў. Паступіў завочна вучыцца ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і ў хуткім часе закончыў яе выдатна. Захару Іванавічу Баркоўскаму ідзе шосты дзесятак. Гады пасераброылі яго віскі. Але ён па-ранейшаму малады, энергічны, поўны творчых сіл, адважных планаў і задумаў. Радзіма высока ацаніла яго заслугі, узнагароджваючы ордэнам Леніна.

**І. І. Сідаровіч**



—Збожжаўборачны камбайн гатовы да жніва, — гаворыць брыгадзір камбайнёраў Аляксей Шэлепаў (злева).

фота В. Казлова

# Дзіўны аўтар дзіўных п'ес



„W CICHYM DWORKU"

У Беластоцкім тэатры імя Аляксандра Вянгеркі побач вялікай сцэны існуе т.зв. малая. Знаходзіцца ў падзямеллях тэатра.

Тут, у прытульнай зале і на сцэне працавала ў свой час «Студыум 66», калі то ставіліся цяжкія п'есы сучасных, і не толькі, аўтараў.

Малая сцэна ў Беластоцкім тэатры засталася ў далейшым сцэнай эксперыментальнай. Можна б рызыкнуць сказ: тут вырастае новы беластоцкі тэатр, тэатр нялёгкі мо часам дзіўнаваты, не для ўсіх зразумелы, але напэўна тэатр, які шукае дарогі ў будучыню і ў глыб людской псіхікі.

Апошняя п'еса, пастаўленая на малой сцэне, называецца цёпла «У ціхім дворыку» і належыць пяру Станіслава І. Віткевіча, псеўданім Віткацы.

Постаці аўтара праміну́ць нельга. Мастак і драматург. У п'есе сабе найбліжэйшай «Вар'ят і манашка» так гаворыць словамі героя: «У галаве маёй ідзе пякельная машына. І не ведаю, на які дзень, гадзіну яна настаўлена. Не ведаю, калі лопне. Часам думаю, што даўжэй не сцярплю такой мукі».

Напісаў Віткевіч 30 п'ес. Толькі некаторыя, найбольш, як бы мы сказалі, зразумелыя трапілі ўжо пасля вайны на сцэны тэатраў.

Кожная яго п'еса — гэта для гледача шок, нават тады, калі ў голас рагоча публіка. А смяешся тады, калі прывід застрэленай жонкі п'е гарэлку і тады, як танцуюць трупы.

Ці бываюць такія здарэнні ў жыцці? Напэўна не. Такога свету няма. Гэта свет аўтара — скрыжаванне ўсіх людзей, тыпаў, рас, гэта нелюдская расправа з усімі людскімі недахопамі.

С. Т.Віткевіч нар. у 1885 — памёр у 1939. Застрэліўся ў стане вялікай псіхічнай дэпрэсіі. Але нават гэты факт гаворыць аб яго вялікасці і арыгінальнасці. (вл)

З НАШАГА МІНУЛАГА

# «Привилей месту Милейчыцкому»...

Дакладна 14 мая 1516 года на «Великом Сойме» ў Вільні дадзена Мілейчыцам магдэбургскае гарадское права. У гэтым гарадскім прывілеі, між іншым, напісана: «...даем право Немецкое Магдэбурское, которымже правом они мают рядится и справоватися на вечные часы, потому як в Бельску и в Мельнику»... Значыць, Мельнік стаў горадам раней, чым Мілейчыцы. Чытаем далей: «...а прото для того права Немецкого в месте вышереченом Милейчыцах Войтовство знову уставляем, и тым Листом нашим тое Войтовство надаваем: иж Войт без Наместника Милейчыцкого немает судити и отовсих пересудов и вин на замок два гроша, а Войту третий грош»... далей гаворыцца аб паслухмянасці войту, хаця пры такім цэнніку за віны войт мог быць зацікаўлены ў росце злачыннасці. Але чытайма далей, чаго патрабавалася ад «места» Мілейчыц у выпадку з'яўлення тут самога караля са світаю: «...А коли Мы Сами Персоною Нашою Панскою прыедем до Милейчыц, тогды мают они на Наш приезд давати з дому по пол четверти овса а по куряти, а по сполу вси копу гусей, а четыры камени лою на свечы, а которого року Мы у Милейчыцах небудем»... то не даваць таго ўсяго. Здаецца, Мілейчыцы мелі даволі частыя візіты караля, бо знаходзіліся яны на шляху з Літвы ў Польшчу — ад Вільні цераз Гродна, Крынкі, Нарву, Бельск на Мельнік, Брэст і Кракаў.

У 1516 годзе ўстаноўлена два кірмашы ў год: на Св. Станіслава ў маі месяцы, а другі — на дзень св. Варвары.

Цікава пабачыць «Привилей Миколаю Лигозе на Войтовство Милейчыцкое, до которого 3 волоки дано, а 4 корчмы в том месте, и иные вольности». Гэты першы мілейчыцкі Войт, Мікалай Лігоза, меў права «...местцо на дом Войтовский где собе Войт в месте оберет и теж огород подле дому Войтовского и Солодовня, и бровар и ятка на рынку, и две крамницы то все мает быти вольно ку Войтовой руце от платов Наших и местских». Як відаць багата жылося войту мілейчыцкаму, без падаткаў, які апрача тых усіх прывілеяў меў яшчэ права на бясплатныя паляванні і лоўлю рыб.

Мілейчыцы сталі горадам 502 гады таму назад.

**С. Яновіч**



 

ЛЮДЗІ і ЧЫНЫ

# НАПРЫКЛАД АЛЯКСАНДР МЯЛЕШКА

Адной з асноўных спраў паднясення сельскай гаспадаркі на высокі ўзровень з'яўляецца меліярацыя. Меліярацыйныя інвестыцыі з'яўляюцца падставай пераўтварэння сельскай гаспадаркі ў высокаінтэнсіўную. Многія прыклады сведчаць аб тым, што меліярацыя і загаспадараванне лугоў дазваляе гаспадарам хутка развіваць сельскагаспадарчую прадукцыю і дасягаць высокіх прадукцыйных вынікаў. Як прыклад, можна падаць тут **Аляксандра Мялешку** з калёніі **Гарадок** Беластоцкага павета.

А. Мялешка гаспадарыць на 22 гектарах зямлі. У тым ліку ў яго налічваецца 16 гактараў лугоў і сенажацяў. Дагэтуль загаспадараваў ён каля 10 гектараў. Перад загаспадараваннем гадаваў Мялешка 4 каровы і 10 свіней. Зараз мае 10 штук кароў і больш 20 свіней. Перад меліярацыяй лугоў і сенажацяў ад адной каровы надойвалася тут 1.800 літраў малака ў год, а ў мінулым годзе адна карова ў сярэднім дала 2.800 літраў малака за год. Зараз гаспадарка Аляксандра Мялешкі прадае ў год 3 штукі маладняку вагой па 300 кг. Перад меліярацыяй тут прадавалася толькі адна штука маладняку, вагой 250 кг.

Гаспадарка Мялешкі ў сувязі з гэтым мае значныя даходы грошай. Гаспадар пабудаваў новыя хлявы, шпіхлер і памяшканне, купіў касілку, зграбалку, машыну да трасення сена. У гэтым годзе Мялешка падрыхтаваўся да пабудовы новай клуні.

Прыклад Аляксандра Мялешкі — гэта адзін з многіх у Беластоцкім ваяводстве. Сведчыць ён аб тым, на колькі павінны быць супольныя намаганні і гаспадара і дзяржавы. І што гэтыя супольныя намаганні даюць велізарныя вынікі і гаспадару і дзяржаве — павышаюць жывёлагадоўлю. (ак)

СУПРАЦЬ ГАЙНЕ-МЕДЫНА

## Паведамленне

Ваяводская санітарна - эпідэміялагічная станцыя ў Беластоку паведамляе, што ў днях 16—20.VIII.1968 г. будзе праведзена прышчэпліванне ад хваробы Гайне-Медына.

Прышчэпліванне ахоплівае ўсіх дзяцей ва ўзросце ад 3 месяцаў да 15 год, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства.

Больш дакладныя інфармацыі аб месцы, даце і гадзіне прышчэплівання будуць пададзены ў паведамленнях.

Інфармацыі даюць таксама пляцоўкі службы здароўя масавага лячэння.

Сядайце, едзем

## Асеннія экскурсіі за граніцу

У асенні сезон спулдзельня турыстычна - адпачынковая «Грамада», аддзел у Беластоку, арганізуе рад дадатковых заграгранічных экскурсій рознага роду.

### ЧЭХАСЛАВАКІЯ

Ярмарка ў Брне — верасень, 1175 зл.

Пазнаем Прагу, Брно, Брацiславу — верасень — кастрычнік, 2680 зл.

Прага — Карлавыя Вары — Мар'янскія Лазні — Пільзна — Прага — кастрычнік-лістапад, 2995 зл.

4 дні ў Празе — III квартал года, 1730 зл.

### СПЕЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ ЭКСКУРСІІ Ў ЧЭХАСЛАВАКІЮ

Пардубіцы — Прага, для гадоўцаў коней, 2500 зл.

Пазнаем гандлёвыя аб'екты Чэхаславакіі, 2300 зл.

Міжнародная выстаўка дробнай жывёлы ў Брне, 1700 зл.

### СПЕЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ ЭКСКУРСІІ Ў ГДР

Сельскія гаспадарствы Паўночнай Германіі, траса Штрасунд—Расток—Берлін—Патсдам, 2860 зл.

Будаўляная гаспадарка ГДР, Расток — Берлін—Патсдам, Магдэбург, Вернігеродэ, Лейпцыг, Дрэздэн, 3600 зл.

Сады і агароды Паўднёвай Германіі, Берлін — Патсдам — Магдэбург, Кведлінбург, Вітэнберг, Котбус — 3240 зл.

Ужо распачаліся і ідуць, таксама будуць прадаўжацца ўвосень, экскурсіі аўтобусамі па карацейшых трасах напр. у Берлін, Дрэздэн, Лейпцыг і г.д. Цана іх 1400—1700 зл.

### ВЕНГРЫЯ

На Балатон і ў Будапешт, верасень, 3250 зл.

Сельская гаспадарка Венгрыі, верасень, 3800 зл.

### БАЛГАРЫЯ

Пазнаем сельскую гаспадарку Балгарыі. Траса: Львоў — Бухарэст — Варна — Бургас — Плоўдзіў — Стара Загора — Сафія — Тырнова, 4—5 тыс. зл.

Сады і агароды Балгарыі, самалётам і аўтобусам — 5—6 тыс. зл.

### РУМЫНІЯ

Сельская гаспадарка і гадоўля Румыніі, 13 дзён, 5 — 5,5 тыс. зл.

15-цідзённая экскурсія самалётам і аўтобусам 5,5—6 тыс.

Акрамя вышэйшага, 2 марскія рэйсы «Мазоўшам» у Расток, у кастрычніку і лістападзе па 121 месца кожны, цана 1650 зл.

Усіх ахвотных просім звяртацца ў экспазітуру «Грамады» ў Сямяцічах, Ломжы, Сувалках і ў аддзел «Грамады» ў Беластоку. (вл)

# ГАСПАДАРЫ ГРАМАДЫ

Вядома, што сядзібу грамадскай рады нарадовай называюць на вёсцы «гмінаю». Такая ўжо проста ў людзей старая звычка. Людзі памятаюць, што калісьці непасрэднай уладай над вёскамі была гміна з войтам на чале. І людзі гэтак паўтараюць. Але сяляне ведаюць дасканала, што цяпер у «гміне» правіць не войт, ці нейкі іншы «начальнік», а грамадскі орган званы грамадскай радай нарадовай.

Раду складаюць радныя выбраныя сялянамі ў паасобных вёсках. Вядома, радныя не збіраюцца ў грамадскай радзе штодзень. Збіраюцца аднак раз у месяц. Аб чым яны радзяць, якія ставяць праблемы? — з пытаннем гэтым звярнуліся да старшыні грамадскай рады нарадовай у Нарве — **тав. Янкі Кураша.**

Таварыш Кураш дастае тоўсты пачак актаў ды знаёміць мяне падрабязна з планам працы ГРН у Нарве. Аказваецца, грамадская рада нарадовая на сваіх пасяджэннях — сесіях разглядае ўсе важнейшыя праблемы сваёй грамады. Адна з сесій, першая ў гэтым годзе, прысвечана была генеральнай абмяркоўцы выканання гаспадарчага плана за 1967 год, іншыя паасобным істотным праблемам жыцця грамады: дзейнасці гміннай спулдзельні, падрыхтоўцы да вясенне-сеўнай акцыі, дзейнасці аштадна - пазыкавай спулдзельні, дзейнасці ПОМ-у, пункта аховы здароўя, працы фінансавай камісіі ГРН. На ўсіх сесіях прымалі ўдзел кіраўнікі ўстаноў, якіх працу аналізавалася — гміннай спулдзельні, СОП-у, ПОМ-у і г.д. Такім чынам ГРН цікавіцца ўсімі галінамі жыцця сваёй грамады і стараецца адпаведна імі кіраваць.

Сесіі ГРН — гэта толькі адна з форм калектыўнага кіравання справамі грамады. Другой, не менш істотнай формай, з'яўляецца праца камісій ГРН. У грамадзе ёсць іх некалькі. Найбольш аднак працы мае фінансавая камісія. Вынікі яе дзейнасці найбольш, зрэшты, цікавяць многіх гаспадароў. Разглядае яна рэгулярна заявы гаспадароў на льготы ў падатках у выпадках, калі з тых ці іншых прычын не могуць яны вывязацца са сваіх абавязкаў.

Нас аднак больш зацікавіць можа праца камісіі культуры ў Нарве, таму што праца яе ў большай меры датычыць спраў пасёлка і ўсяе грамады. У гэтым годзе камісія культуры нараўскай ГРН паставіла некалькі пастулатаў, якія ўжо пачала рэалізаваць. Першы датычыць перанясення святліцы са старога дома культуры ў мясцовую пажарніцкую рамізу. Звольненае такім чынам памяшканне выкарыстаецца для працы гурткоў зацікаўлення грамадскага цэнтра культуры. Такім чынам усе грамадскія памяшканні ў Нарве будуць выкарыстаны да адпаведнай грамадскай працы.

Другі пастулат культурна-асветнай камісіі ГРН у Нарве датычыць больш за ўсё дзіцячых спраў. Прапануе яна менавіта пабудаваць у мясцовым парку пляц гульняў для дзяцей. Рэалізацыя гэтага пастулата сустрэлася з пэўнай цяжкасцю — кошт мерапрыемства — 11 тысяч зл. Гэта не мала, але не так зноў і многа, каб Нарва не магла зрабіць такога падарка сваім маленькім.

З пэўнай цяжкасцю сустрэлася таксама рэалізацыя пастулата камісіі грамадскай маёмасці, якая запрапанавала прыгожа асветліць нараўскія вуліцы. Проста не хапае адпаведных да гэтага матэрыялаў. Старшыня ГРН аднак добрай думкі, мае ён надзею, што ўрэшце асвятленне Нарвы ўдасца ўладам рэалізаваць.

Такім чынам грамадская рада нарадовая аказваецца сапраўдным гаспадаром грамады ацэньваючым і плануючым яе развіццё, які займаецца дробнымі справамі паасобных сялян і агульнымі справамі ўсяе грамадскасці. Грамадская рада нарадовая не спаўняла б аднак сваёй ролі дэмакратычнага органа ўлады без пастаяннага кантакту з асяроддзем. Кантакт гэты ўтрымліваюць радныя праз сустрэчы з насельніцтвам паасобных вёсак. На тэрыторыі нараўскай грамады ўжо ў гэтым годзе адбыліся ў кожнай вёсцы па 2 такія сустрэчы. Радныя расказваюць на іх гаспадарам аб працы ГРН, слухаюць заўваг і прапаноў сялян.

**Ул. Паўлючук**

## У БЕЛАРУСКІМ МУЗЕІ



Экспанат беларускага музея ў Белавежы, жорна з 1830 года.
Фота: С. Бушка

М. ЯНКОЎСКІ — БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

На поўдні і на ўсходзе ад Белавежскай пушчы дзейнічалі партызанскія брыгады і атрады злучэння партызан Брэсцкай вобласці. На паўночным усходзе, у Ваўкавыскім раёне — партызанская брыгада імя Чапаева, (камандзір Матэвасян) Беластоцкага злучэння. Паўночней яе, у напрамку чыгункі Гродна — Беласток (пад Саколкай), дзейнічала партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага (камандзір Вайцюхоўскі).

Яны крыху раней нас злучыліся з Савецкай Арміяй.

Атрады нашай брыгады «У імя Радзімы» былі самым перадавым заходнім фарпостам беларускіх партызан і яны дапамаглі Савецкай Арміі ў канчатковым вызваленні Беларусі і ва ўступленні яе на зямлю Польскай Народнай Рэспублікі. Нашы партызаны атрадаў імя Дзяржынскага, імя Кутузава і імя Багдана Хмяльніцкага правялі воінаў Савецкай Арміі праз пушчу і сумесна з імі ўдзельнічалі ва ўзяцці гарадоў Гайнаўкі і Бельска.

У вёсцы Ляхі Бельскага раёна гераічна загінула 10 партызан атрада імя Дзяржынскага. Узвод Куўшынава, як вядома, дзейнічаў у Бельскім раёне на левым беразе Нарвы. Рыгор Куўшынаў і Валянцін Бандарэнка з групай партызан вярталіся з разведкі. Да лесу было далёка, а ў гэты час паказаліся аўтамашыны з адступаючымі фашыстамі і некалькі танкаў. Куўшынаў засеў са сваёй групай у стадоле. Гітлераўцы заўважылі іх і акружылі з усіх бакоў. Яны прапанавалі ім здацца, але партызанскі агонь па ворагу з аўтаматаў прымусіў іх залегчы. Завязаўся няроўны бой. Больш 50 гітлераўцаў было забіта і каля 20 паранена. Фашысты адкаціліся назад і тады стадолу акружылі танкі. Будынак загарэўся. Партызаны адстрэльваліся да апошняга патрона. Праз некаторы час у палаючай стадоле пачуліся ўзрывы гранат. Партызаны ўзрывалі самі сябе. Іх абвугленыя целы жыхары в. Ляхі пахавалі недалёка ад вёскі.

Так гераічнай смерцю загінулі: партызан-дэсантнік, начальнік разведкі атрада імя Дзяржынскага Валянцін Пятровіч Бандарэнка, камандзір узвода Рыгор Якаўлевіч Куўшынаў і іх сябры.

Атрады імя Пархоменкі, імя Жукава і ўсе прыданыя ім аддзяленні і ўзводы заходняй групоўкі нашай брыгады, якой камандаваў я, злучыліся з Савецкай Арміяй на 7 дзён пазней. Перад Бугам вораг аказаў жорсткае супраціўленне нашым войскам, нават была зроблена спроба акружэння нашай дывізіі, якая прарвалася за Буг. Але нашы падраздзяленні не зварталі ўвагі на «акружэнне» і ішлі наперад на гэтым вузкім праходзе.

Створаны немцамі «мяшок» аказаўся мяшком для іх. Перад Бугам у Бранскіх лясах засталося шмат немцаў, і мы сумесна з воінамі 37 дывізіі да 7 жніўня праводзілі ачышчэнне гэтых лясоў ад фашысцкай погані.

10 жніўня 1944 года брыгада «У імя Радзімы» ў поўным саставе сабралася ў вёску Дубіны і падвяла вынікі сваёй баявой дзейнасці за мінулы перыяд ад 1 верасня 1943 года.

Сіламі атрадаў і паасобных груп за гэты час праведзена 103 баявыя і дыверсійныя аперацыі, падарвана 34 варожыя эшалоны, знішчана 32 паравозы, 196 вагонаў, 43 масты на чыгуначных і стратэгічных шасейных дарогах, разбурана больш 18 кіламетраў чыгуначнага палатна і 110 км тэлефонна-тэлеграфных ліній, выведзена са строю шмат відаў варожай зброі, у тым ліку 6 гармат, захоплена многа трафеяў. Партызанамі знішчана каля дзвюх тысяч гітлераўцаў і больш шасцісот паранена.

З сакавіка да жніўня месяца 1944 года больш як у тры разы павялічыўся асабовы склад брыгады. За лік партызанскіх сувязных, членаў антыфашысцкіх камітэтаў, камсамольцаў і нашага актыву з вёсак і гарадоў Беласточчыны прыйшоўшых у партызанскія атрады. У сакавіку 1944 года ў атрадах імя Дзяржынскага, імя Пархоменкі і імя Жукава налічвалася па 15—25 партызан, а праз чатыры месяцы ў кожным з іх было ўжо не менш 100 чалавек.

Атрад «За Радзіму» выйшаў у верасні месяцы на Беласточчыну маючы ў сваім складзе 200 партызан, а перад злучэннем з Савецкай Арміяй, у створанай на яго базе брыгадзе «У імя Радзімы» налічвалася каля сямісот народных мсціўцаў і звыш двухсот сувязных. Новае папаўненне партызан

# САМАХОДЫ З ПКО

Пад канец ліпеня г.г. адбылося ў Варшаве чарговае лясаванне 99 самаходаў сярод уласнікаў ашчадных кніжак ПКО прэміяваных аўтамашынамі. 11 самаходаў прыпала жыхарам Беластоцкага ваяводства.

Варта прыпомніць, што ПКО ўжо ашчаслівіла самаходамі аж 134 уласнікі ашчадных кніжак, якія пражываюць у Беластоцкім ваяводстве. Каб кніжка прыняла ўдзел у лясаванні, патрэбна, каб было на ёй запісана прынамсі 6 тысяч зл. Пасля выйгрышу самахода ашчаднасці не прападаюць і кніжка надалей прымае ўдзел у лясаванні прэміяў — самаходаў.

(вр)

# РЭВАЛЮЦЫЯНЕР

Дзядзька Ян Крукоўскі з Пасынкаў мае ўжо 73 гады. Падчас рэвалюцыі быў ён камандзірам 2 эскадрона 58 кавалерыйскага палка. Падчас рэвалюцыйных падзей Янка Крукоўскі быў два разы ранены. Першы раз рану атрымаў ён у Маскве ў 1918 годзе, калі вёў свой атрад на ахову Курскага вакзала. Стрэліў да яго тады з акна дома нейкі контррэвалюцыянер. Дзядзька Крукоўскі ганарыцца тым, што не гледзячы на балючую рану расставіў ахову вакзала і толькі тады, калі рэвалюцыйнае заданне было закончаным, з'явіўся на санітарным пункце. Асколак кулі астаўся да сённяшняга дня пад пахаю дзядзькі Крукоўскага.

(п)

# Выстаўка літоўскай графікі

У журналісцкім «Клубе Сямі» ў Беластоку адкрыта выстаўка графікі двух перадавых літоўскіх мастакоў: Вінцаса Кісараўскаса і Антанаса Кельяускаса. Разам 30 графік плюс 30 экслібрысаў — гэта кніжныя знакі, у якіх успомненыя мастакі з'яўляюцца вялікімі спецыялістамі. Абодва мастакі вялікія сябры. Вучыліся і жывуць у Вільнюсе. Выстаўлялі ў СССР, Чэхаславакіі, Польшчы. Беластоцкая выстаўка з'яўляецца найбольш поўнай іх выстаўкай у Польшчы.

(вл)

# Кляшчэлеўскія школы

У грамадскай радзе нарадовай Кляшчэлі амаль ва ўсіх вёсках ёсць новапабудаваныя школы. Аднак у сувязі з рэформай асветнай сістэмы, школы гэтыя аказаліся зацесныя. Жыхары пастанавілі разбудаваць іх пры значным удзеле працы грамадскім чынам. Дзякуючы гэтаму да школьных будынкаў у Дашах і Саках дабудавана па 3 новыя школьныя памяшканні. Агульны кошт гэтых будоўляў каля 350 тысяч злотых.

(п)



# БОЛЬШ БЫ ТАКІХ

(Працяг са стар. 1)

здзейсніць мары аўгустаўлян. Вельмі марыць яны, каб пастаянна на перыяд палявых работ адкрываць 3-охмесячны дзяцінец. Дагэтуляшняя калькуляцыя сродкаў не дазваляе на такі люксус. Проста не пад сілу аплачваць кадру дзяцінца.

Можна меркаваць, што з дапамогай тут прыйдзе Бельскі аддзел асветы.

Нам, напісаўшы інфармацыю з Аўгустова, астаецца пажадаць, каб у будучыні ўсе мелі такія дзяцінцы.

**А. Лабановіч**
фота аўтара

**Вядучыя напрамкі і галоўныя заданні культурна - асветнай дзейнасці Беласточчыны на 1968/69 год**




Многа знамянальных гадавін чакае нас ў новым 1968/69 годзе, пачатак якога адкрыецца ўрачыста ў верасні ў Кольне. Якія ж гэта падзеі, якім падпарадкавана будзе культурна-асветная праца дзеячоў і актыву?

Найперш успомніць трэба пра V з'езд партыі. Цяпер ужо тэзісы на V з'езд акрэсліваюць напрамак і галоўныя заданні ў пашырэнні культуры, у разбуджэнні сіл і мажлівасцей людзей, асабліва на вёсцы, ва ўзросце базы для культурна-асветнай дзейнасці, у пашырэнні чытальніцтва газет, часопісаў і кніжак.

У далейшым маем 25-ую гадавіну нараджэння Народнага Войска Польскага.

50 год незалежнасці Польшчы (дата сягае 1918 года, калі пасля 123 год зноў паўстала незалежная Польшча).

50 год з дня нараджэння і змагання КПП. Тут таксама 1918 год, калі паўстала ў выніку аб'яднання розных левых партый і груп Камуністычная партыя рабочых Польшчы, перайменаваная ў 1923 годзе на Камуністычную партыю Польшчы, у рамах якой, як ведаем, на правах аўтаноміі, дзейнічала КПЗБ.

25 год з дня нараджэння ППР — вельмі важная і цікавая гэта гісторыя ў польскім рабочым руху, хоць кароткая.

20 год ПАРП — гэта ўжо дзень сённяшні, часы навейшыя, твораныя нашымі рукамі. Прапануем хвіліну задумы і рэфлексіі над роляй партыі ў жыцці народа і кожнага паасобку.

Культурна-асветны 1968/69 год будзе таксама годам падрыхтоўкі да вялікага святкавання чвэрці веку гісторыі Польскай Народнай Рэспублікі, якая ў віхры II сусветнай вайны намаганнем прагрэсіўных сіл сфармавалася ў цяперашніх граніцах, прыгожая і багатая, з горамі і морам, з вялікімі натуральнымі багаццямі, краіна прамыслова - сельскагаспадарчая.

II палова культурна-асветнага 1968/69 года прынясе канцэнтрацыю ўвагі на выбарах у рады нарадовыя і сейм ПНР. На выбарных лістках пакажуцца новыя твары, нашыя найлепшыя прадстаўнікі ў найвышэйшыя дзяржаўныя органы ўлады.

Культура і асвета маюць аграмаднае значэнне для ўмацавання здабыч народных мас у сацыялістычным будаўніцтве. Таму роля дзеячоў і актыву ўсё больш расце. Толькі чалавек адукаваны, культурны, ачытаны можа мець аргументы на сваю рацыю, на нашу рацыю, а імя ёй — сацыялізм.

(вл)

# ШТО ЧЫТАЮЦЬ

Летнія месяцы кожны год на вёсках прыносяць спадак падпісчыкаў газет і часопісаў. А гэта таму, што многа палявых работ і што канікулы ў школьнікаў, якія таксама мала чытаюць у гэтым перыядзе. А вось якія газеты ў жніўні чытаюцца ў раёне пошты Клюковічы.

Першае месца займае «Грамада», мае яна 329 падпісчыкаў, другое месца «Ніва» — 70 падпісчыкаў. На трэцім месцы «Пшыяцюлка» — 64 падпісчыкі. 60 падпісчыкаў мае «Наша весь», 49 падпісчыкаў «Хлопска дрога» і 38 падпісчыкаў «Газета Беластоцкая».

(мх)

# ГРАМАДСКІЯ ЛЮСТРАТАРЫ

Каб паднесці на вышэйшы ўзровень прадукцыйнасць індывідуальных гаспадарак, неабходны кантроль рэалізацыі пастаноў і ўказанняў улад. Зразумела, што штатныя працаўнікі самі гэтага не ў сілах зрабіць, а з другога боку вядома, што ёсць шмат вельмі добрых указанняў, якіх рэалізацыя прычынілася б да паднясення на вышэйшы ўзровень сельскай гаспадаркі.

У сувязі з гэтым Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у **Гайнаўцы** прыняў пастанову ад 4 чэрвеня 1968 г. аб пакліканні грамадскіх люстратараў. Пастанова забавязала прэзідыумы грамадскіх рад да паклікання грамадскіх люстрацыйных камісій і распрацоўку тэрмінаў люстрацыі. Згодна з планам, камісіі будуць праводзіць люстрацыю палёў і сяліб тры разы ў год у паасобных гаспадароў. **Першая** люстрацыя адбылася ў маі — чэрвені, **другая** — ў жніўні, а **трэцюю** прадбачваецца на снежань — студзень.

Сабраныя ў часе люстрацыі спасцярогі і вынікі павінны быць прадыскутаваны на адкрытых сходах сельгасгурткоў і агульных вясковых сходах. У выпадку, калі выявіцца, што паасобныя гаспадары або ўстановы маюць абыякавыя адносіны да паднясення прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі, ГРН-ы мусяць гэта ўдакументаваць, што будзе падставай да пэўнага пакарання.

Можна меркаваць, што сумленны кантроль люстратараў і прадыскутаванне вынікаў на агульнавясковым сходзе дасць пажаданыя вынікі хаця б у форме агульнагаспадарскай прэсіі на занядбоўваючыхся.

(ак)

узбройвалася ў большасці трафейнай зброяй здабытай у баях. Нашы трафеі: 241 вінтоўка, 8 кулямётаў, 20 аўтаматаў, 12 пісталетаў, каля сотні гранат і больш 20 тысяч патронаў. Партызанскія сувязныя перадалі партызанам 107 вінтовак, 9 кулямётаў, каля 5 тысяч патронаў, вялікую колькасць гранат.

Увайшлі ў гісторыю брыгады баявыя подзвігі нашых партызанак Софіі Францкевіч, урача Лідзіі Пархімовіч, радысткі-дэсантніцы Марыі Сетавай, Таісы Янкоўскай, Софіі Ткачовай, Кацярыны Смірновай, Ганны Койла і многіх іншых.

Зусім інакш склаліся адносіны паміж партызанскімі атрадамі нашай брыгады і групамі «акоўцаў» напярэдадні злучэння з Савецкай Арміяй. Рэакцыйныя кіраўнікі «Арміі Краёвай» з кожным днём трацілі аўтарытэт перад адданымі патрыётамі Польшчы. Шырокая прапаганда палітыкі нашай партыі і Польскай рабочай партыі ў пытаннях вайны і міру давала станоўчыя вынікі. Газеты нашых падпольных райкомаў партыі траплялі ў кожную вёску. Людзі чыталі іх і пачыналі разумець, што з Лонданскім эміграцыйным «урадам» ім не па шляху. Групы «акоўцаў» зусім спынілі баявыя сутычкі з намі і ў большасці выступалі супраць немцаў сумесна з нашымі атрадамі.

У Белавежскай пушчы, як я ўжо пісаў, быў наш партызанскі шпіталь. Медыцынскія работнікі «акоўцы» (не памятаю іх прозвішчаў) вельмі часта наведвалі нашых раненых, дапамагалі нам у набыцці медыкаментаў. Так змянілася варожасць узаемным сяброўствам і ўзаемнымі дзеяннямі супраць агульнага ворага.

Неабходна яшчэ раз адзначыць, што вялікую заслугу і авангардную ролю ў барацьбе з рэакцыяй адыгралі нашы падпольныя партыйныя арганізацыі, іх газеты і лістоўкі і такія палымяныя агітатары і прапагандысты, як Томаш Грабэж і іншыя.

Партыйнай і камсамольскай падпольнымі арганізацыямі надрукавана і распаўсюджана сярод насельніцтва сваёй зоны больш 10 тыс. экземпляраў мясцовых газет — многатыражак і лістовак.

Атрады кутузаўцаў, багданаўцаў і дзяржынцаў, пархоменцаў і жукаўцаў брыгады «У імя Радзімы» навекі ўвайшлі ў гісторыю Беласточчыны сваёй гераічнай барацьбой супраць гітлераўскіх захопнікаў. Гісторыя гэтага краю ніколі не забудзе палымянага патрыятызму сваіх людзей, якія не шкадуючы жыцця забяспечвалі ўмовы для баявой дзейнасці народных мсціўцаў.

Магілы воінаў Савецкай Арміі, партызан і закатаваных фашыстамі ахвяр у Белавежскай пушчы і па ўсёй Беласточчыне навечна захаваюць у народнай памяці загінуўшых герояў.

Пераможнай лавінай прыйшлі сюды воіны Савецкай Арміі і з дапамогай партызан ачысцілі Белавежскую пушчу і раёны на захад ад яе ад фашысцкай погані. Народ зноў прыступіў да стваральнай працы.

V.

Нядаўна мне давялося пабываць на Беласточчыне. На граніцы па дарозе з Гродна ў Беласток нас сустрэлі прадстаўнікі іх органаў улады. Прывіталіся. Да мяне падыйшоў палкоўнік. Разгаварыліся. Гады вайны ўспомнілі.

— А скажыце, паважаны палкоўнік, — пытаю ў яго. — Вы сустракалі тут каго з былых партызан? — і назваў яму прозвішчаў дзесяць. Усіх ведае. Пра ўсіх расказаў.

— А ці ведаеце вы Валодзю — дэсантніка, шустры такі хлопец быў?

Засмяяўся палкоўнік і па плячы мяне паляпаў.

— Дык гэта ж, — адказвае, — я і ёсць Валодзя. Толькі прозвішча маё сапраўднае Анацік, Ян Антонавіч.

Расцалаваліся мы і вочы ад радасці памакрэлі.

— Пачуў, што ты едзеш і вось сустракаю.

Прыехалі ў Беласток. Заходзім у гасцініцу. А там польскі падпалкоўнік авіяцыі сустракае мяне. Абняў, цалуе.

— Ды хто вы? — пытаюся ў яго.

Бачу твар знаёмы, а прыпомніць не магу.

— Мішу-цыганка памятаеце, сувязнога вашага?

— Полеха Міхаіла?

— Я і ёсць.

Сустрэў я тут і Аляксандра Юрчука, і Уладзіміра Шаралу з жонкай Кацярынай, і Сцяпана Койлу з жонкай Ганнай, і Фёдара Грэдэля, і Рыгора Саевіча...

І прыемна так стала на душы ад таго, што і ў нас, і ў Польшчы былыя партызаны знайшлі сваё месца ў мірнай працы і ідуць у першых радах будаўнікоў новага жыцця ў новай эры сацыялізма.

А Томаш Грабэж і Алексяюк са сваёй Дуняй загінулі ад рук бандытаў ужо пасля выгнання фашыстаў у тым жа 1944 годзе. І да іх дабралася брудная рука эміграцыйнага «ўрада».

Ніколі не забудуцца героі аддаўшыя сваё жыццё за шчасце людзей, за светлую будучыню чалавецтва. Над іх магіламі на Капыльшчыне і ў Беласточчыне, у Ружанскай і Белавежскай пушчах высяцца велічныя помнікі-абеліскі, цвітуць кветкі. Да іх ходзяць школьнікі і дарослыя, ушаноўваюць памяць герояў.

**М. Янкоўскі**

Чэрвень 1967 г.

# ТРЫБУНА чытачоў

## АДПАЧЫВАЮЦЬ

Ужо пяты раз сацыяльна-бытавы цэнтр ПКП у Седльцах сарганізаваў лагер для сваіх дзяцей у лесе непадалёк вёскі Плянта (Гайнаўскі павет). Дзеці начуюць пад палаткамі. Душою лагера з'яўляецца яго кіраўнік мгр Мікалай Зэгальскі, настаўнік тэхнікума ў Седльцах.

Як ніхто, ён ведае многа ўсялякіх таямніц з жыцця лесу. Ведае многа цікавых эпізодаў са змаганняў гайнаўшчан з гітлераўскім акупантам. Вучыць любіць прыроду, захапляцца непаўторным характвом Белавежскай пушчы, цаніць народнае змаганне простых пушчанскіх людзей у часы апошняй сусветнай вайны.

Нічога тады дзіўнага ў тым, што дзеці чыгуначнікаў пабывалі не адзін раз у самой Белавежы, у Гайнаўцы. У Гайнаўцы пабывалі яны ў Тартаку, у тэхнікуме і ў Доме партыі. У сонечныя цёплыя дні дзеці загараюць на беразе ракі Нараўкі, купаюцца ў яе люстранай вадзе, вудзяць рыбу. Амаль, не сціхае тут спеў і музыка. Моладзь выступала з канцэртам для нараўскага насельніцтва ў сувязі са святам Адраджэння Польшчы, сустракалася з прадстаўнікамі ўлад, цікавымі людзьмі, якія пражываюць у навакольных вёсках.

Пад вечар дзеці пякуць у прыску бульбу, глядзяць тэлевізар, або развучваюць ролі ў гуртку самадзейнасці.

Мілыя будуць успаміны з канікул. Успаміны экскурсій па лесе, розных тульняў, цікавых заняткаў.

А хіба найбольш запомняцца песні, якія выконваліся пры вогнішчы ў летнія кароткія вечары, мілагучныя гукі акардэона і гітары...

Многа ўражанняў, незабыўнага.

**Янка Цялушэцкі**

## СТОНКА



**Стонка (каларадскі жук) нішчыць бульбу. Т. Грыгарук з вёскі Шчыты (Бельшчына) апыльвае бульбу, каб знішчыць шкодніка.**

**Павел Зіневіч**
Бельск

## ВЕСТКІ З КРЫВЯЦІЧ

Кончылася жніво. Аб тым, як яно праходзіла ў Крывяцічах, хачу напісаць пару слоў. Вялікую ролю адыграў сельскагаспадарчы гурток. У гуртку ёсць чатыры трактарныя снопавязалкі, якія безупынна жалі не толькі на крывяціцкіх палях, але таксама і суседніх вёсках. Дыспазітар нашага гуртка Мікалай Мураўка добра арганізаваў работу. Жніво прайшло без лішніх клопатаў, спрэчак. Горш было тым гаспадарам, у якіх на палях праводзяцца меліярацыйныя работы. Яны былі вымушаны касіць свае ўраджаі касою.

**Ваня Кірыдзюк**
Крывяцічы




**Дарагое Сэрцайка!**

Мы ўжо 5 год жанатыя. Маем 3-гадовага сынка. Я кахаю сваю жонку, таму мо і вельмі перажываю. Сталася гэта тады, калі яна пачала вучыцца і выязджаць у горад (Ральнічая школа). Я не маю поўнай сярэдняй адукацыі, баюся, што Марыся можа пасля сканчэння пакінуць мяне. (Я таксама працую, толькі на вёсцы). Калі выязджае, заўсёды прыгожа апранаецца, а нават і прычоску робіць модную. Я тады пачынаю нервавацца, і пачынаецца ў нас сварка. Марыся ад'язджае знерваваная, а калі вяртаецца, вымаўляе мне гэта, бо ёй перашкаджаюць нервы вучыцца. Але чаму ж яна і каму ж яна так модзіцца? Што мне рабіць, парай Сэрцайка.

**Вітэк**
**з Бельшчыны**

**Дарагі Вітэк!** Ты вельмі дрэнна паступаеш. Гэта сапраўды перашкаджае тваёй жонцы ў вучобе. Вельмі добра, што твая жонка апранаецца. І дома, а тым больш у «людзях», як кажуць, трэба прыемна, чыста, ахайна выглядаць. З гэтага ты павінен толькі цешыцца. А хіба ж за 5 год вашага сужыцця ты добра пазнаў сваю жонку, зрэшты ў пісьме пішаш, што яе кахаеш, што ніколі нічога дрэннага ў яе паступках не заўважаў. Дык чаму ж не верыць цяпер? Мне здаецца, што не ў гэтым справа. Ты проста зайздросны, што яна будзе больш адукаваная за цябе. (Мужчыны гэтага не любяць). Будзь разважным, памажы ёй, пакуль кончыць, а потым пачнеш ты. Жонка напэўна табе паможа. Абое будзеце мець сярэднюю адукацыю і скончацца зайздросныя сцэны.

**Жадаю ўсяго найлепшага**
**Сэрцайка**

## ВІЗІТ ДРУЖБЫ

ПГР Каменны Двор (Бельскі павет) супрацоўнічае з саўгасам на Гродзеншчыне. На пачатку чэрвеня дэлегацыя ПГР Каменнага Двара пабывала на Гродзеншчыне. У ліпені з рэвізітам прыехала 6-ціасабовая дэлегацыя саўгаса ў Каменны Двор. Госці пабачылі сад ПГР, курыную ферму, плантацыі збожжа і рапаку (рапсу).

Тэкст і фота: **Павел Зіневіч**
Бельскі павет



**Дэлегацыя у садзе ПГР-у.**



**У інкубатары ПГР-у.**

## НЕ ЗАБУДЗЬМА ПРА ІХ МАГІЛЫ

Там, дзе былі ў час гітлераўскай акупацыі расстрэленыя людзі, ставяцца помнікі або памятныя дошкі, каб прыпомніць людзям гітлераўскія зверствы і нечалавечнасць. На жаль, не ўсюды ёсць такія помнікі на месцы расстрэлаў. 8.III.1942 года ў вёсцы Гаркавічы (Сакольскі павет) немцы расстралялі 9 чалавек былых членаў КПЗБ. Вось іх імёны: Аляксандр Прытыцкі (брат вядомага рэвалюцыянера Сяргея Прытыцкага) Леан Прытыцкі, Іван Прытыцкі, Уладзімір Савіцкі, Іван Кастэцкі, Павал Яцэвіч, Уладзімір Усцілка, Іван Філановіч, Васіль Суравец. На тым месцы сем'і пабітых паставілі крыжы. Але людзі хацелі б, каб пры дапамозе павятовых улад паставілі тут помнік. Няхай ён напамінаў бы маладым людзям, якія не памятаюць тых часоў, аб злачынствах фашысцкіх катаў.

Другое месца гітлераўскіх злачынстваў знаходзіцца каля вёскі Шудзялава. У 1943 годзе немцы расстралялі 11 чалавек. Сям'ю ветэрынара з Тальковшчыны Трускоўскага (5 чалавек), сям'ю Снарскіх з Крынак, Малішэўскага з вёскі Баратыншчына і трох іншых людзей. Сёння на тым месцы расце рабіна, пасаджаная на знак, што ў гэтым месцы былі магілы расстрэленых немцамі 11 чалавек. Няхай тут стане помнік, або мемарыяльная дошка. Няхай ведае гэта месца маладое пакаленне.

У. Х.
Гаркавічы

## БАЯЛІСЯ ЧЫРВОНАГА КОЛЕРУ

Перад другой сусветнай вайной Камуністычная партыя Заходняй Беларусі праводзіла дзень 1 жніўня, як дзень антываенны. КПЗБ перад 1 жніўня праводзіла антываенныя мітынгі, склікала антываенныя сходы і распаўсюджвала камуністычную літаратуру, вывешвала чырвоныя сцягі з антываеннымі надпісамі. Гранатовая паліцыя перад 1 жніўнем мела па вушы работы, рабіла «засадкі», каб злапаць таго, хто вывешвае сцягі, альбо раскідае афішкі. У 1935 годзе раніцай ідуць да вёскі Семяноўка (непадалёк Крынак) двух крынскіх паліцыянтаў. А жыхар гэтай вёскі Марко Кішкель абшыў каблук у касе чырвонай насыпкай са старой падушкі і пайшоў рана касіць жыта. Але бачыць, ад Крынак ідзе двух паліцыянтаў, проста бягуць, а не ідуць. Марко думае, чаго іх чорт так рана падняў на ногі. Яны бліжэй падыходзяць і крычаць: стой, стой! Марко застанаўляецца, каго яны гоняць? Аж бліжэй падбягаюць і крычаць: стой, сукін сын! Тады Марко стаў, а паліцыянт яго ў шчаку, а другі ў другую шчаку ўдарыў. Вы за што гэта мяне б'еце? Адзін кажа: за тое, што ты не меў іншага палатна абшыць касу, а спецыяльна абшыў камуністычнай шматкай. І пачалі яны палатно абрываць. І так мне касу абгалацілі, да кусочка. Вярнуўся Марко дамоў і кажа: давай баба кужалю абшыць касу, бо паны баяцца чырвонага колеру, як чорт крыжа.

А. С. Сакольскі павет

Відаць Абст чакаў гэтага паведамлення. Ён пераглянуўся з Галерам, устаў. Рышэр было загадана адправіцца ў радыёрубку і змяніць Вальтэра.

— Навошта ён спатрэбіўся Абсту?

— Вальтэр павінен быў ісці да лагуны. Мяркуючы па тым, што я пачула, у лагуне адбудзецца нешта важнае.

— Што менавіта?

— Не зразумела. Але Абст збіраецца выплысці з грота. — Рышэр раскрывае далонь. У ёй паперка. — Прачытайце. Прыйшоўшы ў радыёрубку, я неўзабаве прыняла паведамленне. Зняла копію...

Карцаў чытае расшыфраваную тэлеграму:

**Аперацыя «Долар». На світанні трыццатага тры лодкі лягуць на грунт у паўмілі на зюйд. Вазьму на борт усіх плыўцоў. Тарпеды маю. ТТ Канарыс.**

— Аперацыя «Долар»?

— Я не ведаю, што гэта такое. Але заўтра трыццатага верасня...

Абсту тэлеграма вядома?

— Яе аднёс Вальтэр. Ён увайшоў у рубку, калі я заканчвала дэшыфроўку.

— ТТ — ініцыялы Канарыса?

— Яго завуць Вільгельм. ТТ — умоўны знак. Я прыкмячала: калі ў паведамленні стаіць гэты знак, наступную сувязь Абст праводзіць сам.

— Калі яна?

— У дваццаць першай гадзіне.

— Можна зрабіць так, каб у рубцы былі вы?

— Не. Хіба што Абст затрымаецца...

Карцаў устае:

— Марта, вам не вярнулі пісталет?

Яна ківае галавой.

— Ясна... Ідзіце, Марта. Нельга, каб нас бачылі разам.

Ён праводзіць яе да дзвярэй.

— Пастарайцеся адпачыць, набрацца сіл. Магчыма, усё адбудзецца ўжо гэтай ноччу. Што б не здарылася, у адзінаццаць будзьце ў сваім пакоі. Я пастукаю... Мужайцеся, Марта!

Яна адыходзіць.

Карцаў глядзіць ёй у след.

У яе валасы колеру плаціны, а вочы цёмнасінія, амаль чорныя. Хворая, бездапаможная, але колькі ў яе мужнасці, унутранай сілы!..

Яму здаецца. Сонечны дзень у родным горадзе. Шырокая вуліца спускаецца да порта. Спераду — мора, яно стаіць зялёнай сцяной, і белыя караблі быццам павіслі над дахамі будынкаў.

Ён беражліва вядзе яе, адзетую ў лёгкую сукенку. У яе ў руках кветкі. У яе заўсёды будуць кветкі.

І няма ніякай вайны.

І кожны, хто сустракаецца ім па дарозе, ведае аб подзвігу Марты, усміхаецца ёй, спяшае зняць капялюш.

(Працяг будзе)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Małpia kuracja” (USA), 20—21. „Urocza gospodyni” (USA), 22—23. „Na los szczęścia Baltazarze” (franc.), 24—25.

**Дубіны**

„Dywersanci” (jugosł.), „Pociąg pod specjalnym nadzorem” (czeski), 24—25.

**Нараўка**

„Bumerang” (polski), „Galia” (franc.), 21—25.

**Нарва**

„Pamiętnik pani Hanki” (polski), „Potem nastąpi cisza” (polski), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**

„Chezburska ballada” (radz.), „Trema” (USA), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Nikt nie chciał umierać” (radz.), „Skąpani w ogniu” (polski), 21—25.

**Райск**

„Flip, Flap i inni” (franc.), „Powrót na ziemię” (polski), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Intrygantka” (czeski), „Miałam 19 lat” (NRD), 20—23.

**Міхалова**

„Hary i kamerdyner” (duński), 20—21. „Prywatna burza” (czeski), 22—23. „Rozwód z miłości” (węgierski), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Dni grozy i śmiechu” (USA), 20—21. „Daleka jest droga” (polski), 22—23. „Hatari” (USA), 24—25.

**Шудзялава**

„Dzieci Don Kichota” (radz.), „Jak się masz Vero” (węgierski), 21—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Sobótki” (polski), „Falstaff” (hiszpański), 21—25.

**Новы Двор**

„Bumerang” (polski), „Gra bez reguł” (czeski), 24—25.

**Ліпск**

„Kaukazka branka” (radz.), „Ludzie w hotelu” (USA), 21—25.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727

